ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 42 (1797) ГОД XXXV БЕЛАСТОК 21 КАСТРЫЧНІКА 1990 г. ЦАНА 600 зл.



На беларускай сустрэчы ў Кліўлендзе. Першы справа — Янка Запруднік.

## З Янкам Запруднікам пра „Беларуса" і пра „Ніву"

**(РАЗМОВА ПРАВЕДЗЕНАЯ З РЭДАКТАРАМ ГАЗЕТЫ „БЕЛАРУС" 23 ВЕРАСНЯ Г.Г. У НЬЮ-ЙОРКУ, У ХАЦЕ СП. БАРТУЛЁЎ)**

Пра Янку Запрудніка я чула шмат добрага і раней, да таго, як прыехала ў Нью-Йорк. Уяўляла яго сабе чамусьці як вельмі поўнага, моцна пажылога чалавека. А тут падыйшоў да мяне шчуплы, энергічны чалавек, рашуча працягнуў руку і так жа рашуча сказаў: „Добры дзень, сяброўка па пяру! Я — Янка Запруднік", — і ў гэты момант мне здалося, што мы знаёмы з ім даўным-даўно і ніякія ні межы, ні акіяны нас не дзеляць і не дзялілі ніколі. Тая першая наша сустрэча ў клубе пры царкве Кірылы Тураўскага ў Нью-Йорку, якая адбылася 29 жніўня г.г. на вечарыне з нагоды прыезду гасцей з Беларусі і Польшчы на 19-ты З'езд беларусаў Паўночнай Амерыкі, пакінула незабыўны след у маім жыцці.

І ўжо тады, у той жа вечар нехта сказаў мне пра яго: „Не толькі робіць „Беларуса" грамадскім чынам, але яшчэ і дакладае!"

Пасля быў З'езд у Кліўлендзе, 1—3 верасня, які дзелавіта вёў менавіта Янка Запруднік. Не траціў ні хвіліны і тады, калі ўжо выступалі паасобныя калектывы і самадзейныя артысты — тады стаяў з мікрафонам, запісваючы гэты канцэрт для радыё „Свабода".

І хаця пазней, у Нью-Йорку ўжо, давялося нам сустрэцца ўсяго некалькі разоў (а была дзеля гэтага нагода, калі Данчык з Раяй Станкевіч арганізавалі „культпаход" у аперэту на „Фантома", пасля было „парты" на 34 асобы ў сп. Бартулёў, блізкіх суседзяў Янкі Запрудніка, а яшчэ ж і сустрэча ў ААН, на прыёме з нагоды Скарынінскага вечара), постаць рэдактара беларускай газеты была прысутная ў штодзённых размовах нью-йоркскіх беларусаў. То Данчык паказваў, дзе на 57-ай вуліцы знаходзіцца радыё „Свабода" („Вось тут працуе Янка Запруднік!"), то сп. Антон Шукелайць вадзіў туды беларускіх гасцей на інтэрв'ю. Выглядала так, быццам чалавек гэты быў заўсёды з імі, складаў часцінку іхняга жыцця.

І таму менавіта мне яшчэ больш захацелася, каб ён сам сказаў нешта чытачам „Нівы". Было ўжо добра пасля поўначы, калі ў віле сп. Бартулёў у часе „парты" мы знайшлі адносна заціпшае месца...

**— Тут, у Нью-Йорку, мне сказалі пра Вас лаканічна: тытан працы. І толькі пазней паяснілі мне, што гэта абазначае. Сапраўды, Вы ж, з'яўляючыся штатным працаўніком радыёвяшчання „Свабода", аднаасабова рэдагуеце штомесячную газету на беларускай мове „Беларус". Скажыце, калі ласка, як гэта магчыма? Ці не зашмат працы як на аднаго чалавека?**

— Працы, вядома, шмат. Аднак жа дзякуючы радыёстанцыі „Свабода" я маю доступ да найбольш актуальных інфармацый, якія маглі б мяне зацікавіць і прыгадзіцца для нашай газеты.

**— А фактычна калі Вы робіце газету, Вы ж цэлы рабочы дзень заняты штатнай працай?!**

— Працую вечарамі, а таксама прысвячаю „Беларусу" вольныя суботы і нядзелі.

**— Ці праўда, што Вы не**

(Працяг на стар. 7)

### ТЭРЫТАРЫЯЛЬНАЯ РАДА БДА Ў БЕЛЬСКУ

30 верасня ў клубе БГКТ у Бельску прайшоў устаноўчы сход Тэрытарыяльнай рады Беларускага дэмакратычнага аб'яднання. Прысутныя на сходзе, пераважна маладыя людзі, выбралі ўправу рады ў складзе: Андрэй Сцепанюк, Славамір Іванюк, Яўген Вапа, Янка Мордань, Васіль Ляшчынскі. Управа выбрала старшыню Тэрытарыяльнай рады: Славаміра Іванюка. Бельская рада з'яўляецца чацвёртай па чарзе тэрытарыяльнай адзінкай БДА. Папярэдне былі створаны рады БДА ў Гарадку, Гайнаўцы і Гданьску.

Прысутныя абмеркавалі грамадскую сітуацыю ў горадзе. Сцверджана, што пасля гарачага грамадска-палітычнага ўздыму беларускай актыўнасці ў час выбарчай кампаніі зараз у Бельску назіраецца нейкая апатычнасць і вяласць. Неспакой і няўпэўненасць у сваім лёсе адчуваюць працаўнікі Гарадской управы ў Бельску. Шмат з іх атрымала ад цяперашняга бурмістра павесткі аб звальненні з працы. Дзіўным прыдарэннем лёсу — усе яны беларусы. Шмат хто адчувае гэта як праяву нацыянальнай дыскрымінацыі. Група працаўнікоў Гарадской управы скіравала пратэст у сувязі з гэтымі звальненнямі ў соймавую камісію па нацыянальных меншасцях і да старшыні БДА Сакрата Яновіча. Юрыдычны дарадчык БДА Пятро Юшчук, прысутны на сходзе, абяцаў дапамогу і кансультацыю пры разглядзе юрыдычнага боку гэтых звальненняў. Перш за ўсё трэба скарыстаць усе юрыдычныя магчымасці абароны працаўніка, гаварыў ён. Калі гэта не дасць вынікаў, можна будзе задумацца над формаю палітычнае акцыі з боку БДА.

Антон Міраповіч, член Краёвай управы БДА, звязаў гэтыя звальненні непасрэдна з некарыснымі для беларусаў вынікамі камунальных выбараў у Бельску. За свае памылкі і сваю палітычную пасіўнасць трэба расплачвацца.

Віктар Стахвюк, каардынатар БДА, сказаў, што падобны настрой неспакою прысутны ў многіх мясцовасцях Беласточчыны. Дэмакратызацыі жыцця не адбылося, і цяпер маем аўтарытарную ўладу, якая шмат якія справы праводзіць у адміністрацыйным парадку. Адзін з прыкладаў — звальненне з пасады дырэктара школы ў Мілейчыцах.

**Ян Максімюк**

 

## На мяжы

— 9 —

Беларусь выразна ідзе ў бок сваёй уласнай незалежнай дзяржаўнасці. У поўную незалежнасць Беларусі я паверу тады, калі ў ёй свабодна будуць дзейнічаць беларуская камуністычная партыя і беларуская антыкамуністычная ліга. Мара некаторых дзеячаў новай хвалі аб тым, каб паставіць па-за правам такі ці іншы рух, такую ці іншую партыю сведчыць аб тым, што ўсе яны знаходзяцца пад уплывам сталінскага падыходу да рэчаіснасці. Тэзіс аб двух баках барыкады, аб тым, што кожны, хто не ёсць прыяцелем, з'яўляецца ворагам, аб тым, што наша ідэалогія найважнейшая і адзіна слушная, відаць, на доўгія дзесяткі гадоў будзе атручваць нашу свядомасць. Не ведаю, колькі ў гэтым праўды, але я чуў, што адзін з высокапастаўленых лідэраў беларускай апазіцыі сказаў, што трэба будзе ў будучым вешаць тых, хто давёў Беларусь да такога стану, у якім яна знаходзіцца сёння. Калі гэта праўда, дык маем дачыненне з вельмі небяспечным чалавекам. Як вядома, у час мінулай вайны загінула каля двух з паловай мільёнаў беларусаў. Думаю, што ў гэтай лічбе змяшчаюцца не толькі ахвяры гітлерызму, але і ахвяры сталінізму. Я і сам падумваў, каб зрабіць усё для таго, што вяло б да высвятлення ўсіх прозвішчаў злачынцаў, якія давілі да такіх страшэнных ахвяр сярод беларускага народа. Па-мойму, не толькі трэба імкнуцца да таго, каб высветліць прозвішчы злачынцаў, але і найбольш вінаватых з іх пакараць. Перадумаўшы многа разоў гэту справу і не адступіўшы ад сутнасці свайго ранейшага пастулату, я спалохаўся, калі пачуў інфармацыю аб тым, што лідэр апазіцыі патрабуе смерці за смерць. Вядома, што ў смерць ужо нам вядомых двух з паловай мільёнаў беларусаў было заангажавана многа соцень чалавек. Трэба тут лічыць не толькі тых, хто непасрэдна забіваў, але і ўсіх даносчыкаў, следчых, пракурораў, суддзяў і многіх іншых, хто пасрэдна або непасрэдна прымаў удзел у гэтым страшным масавым здзеку над беларускай нацыяй.

## АД ПАЧУЦЦЯ СОРАМУ ДА ПАЧУЦЦЯ ГОНАРУ

Можам прыняць пагляд, што дзякуючы заангажаванню не толькі соцень тысяч, а можа і мільёнаў чалавек, удалося нам ідэнтыфікаваць усіх злачынцаў, якіх, для прыкладу, аказалася семсот тысяч. Ідучы далей па абранай дарозе, трэба было б адкрыць дзесяткі тысяч судоў, якія дзень і ноч будуць судзіць злачынцаў. Ідучы за ідэяй злога лідэра, суды гэтыя прыгавораць дзесяткі тысяч людзей да пакарання смерцю. І вось пакрыем Беларусь дзесяткамі тысяч шыбеніц, якія ўквецім трупамі. З якім тварам пасля гэтага ўвойдзем мы ў агульны еўрапейскі дом? Як вядома, гітлераўцы забілі ў Еўропе і ў Афрыцы дзесяткі мільёнаў чалавек. І ў гэтых злачынствах прымалі ўдзел дзесяткі мільёнаў немцаў. Пасля вайны ў Заходняй Германіі было асуджана на смерць усяго некалькі соцень гітлераўцаў. Ці гэта добра? Мне здаецца, што не вельмі. Яўных людабойцаў у пасляваеннай Германіі было сотні тысяч, калі не мільёны. Але было б, магчыма, шаленствам, калі б мы сёння запатрабавалі ад Германіі расстраляць ці павесіць сотні тысяч былых гітлераўцаў. Дык і мы не прапануйма ўласнаму народу крывавых расправаў! Пазнаць злачынцаў — так. Назваць іх прозвішчы — так. Найбольш злосных пакараць — так. Аднак не заклікайма да вешання! Ідэя пакарання слушная, але павінна яна ісці плячом у плячо з ідэяй прабачэння. Прабачыць не абазначае забыць, не абазначае не пакараць, але абазначае — не вешаць. Наш народ спаткала вялікая бяда. Ён страціў нацыянальны твар, ён праз гэта ў сур'ёзнай ступені абесчалавечыўся, трэба яму вярнуць чалавечнасць. Не пры дапамозе новага тэрору, а пры дапамозе дабра.

**Алесь Барскі**

## З мінулага тыдня

**Пачалася выбарчая прэзідэнцкая кампанія.** Найбольш сур'ёзнымі кандыдатамі на пост прэзідэнта РП з'яўляюцца **Лех Валэнса** і **Тадэвуш Мазавецкі.** Аб сваім удзеле ў выбарчай барацьбе заявілі **Уладзіслаў Сіла-Навіцкі** (Хрысціянска-дэмакратычная партыя працы), **Лешак Мачульскі** (Канфедэрацыя незалежнай Польшчы), **Уладзімір Цімашэвіч** (Левы парламенцкі дэмакратычны клуб).

**На Беласточчыне пражываюць прадстаўнікі 10 веравызнанняў.** Каля 65 працэнтаў насельніцтва складаюць вернікі Рымска-каталіцкага касцёла (119 касцёлаў), а 30 працэнтаў — Праваслаўнай царквы (85 цэркваў).

**Былы міністр унутраных спраў Мірaслаў Мілеўскі** і шэсць іншых асоб, у тым ліку чатырох былых кіраўнічых функцыянераў МУС, знаходзяцца ў арышце. Усе яны падазраваюцца ў карупцыі.

**Арыштаваны таксама былыя віцэ-міністры ўнутраных спраў Уладзіслаў Цястань і Зянон Ян Платэк.** Абвінавачваюцца яны ў падбухторванні да забойства ксяндза **Ежы Папялушкі.**

**У Эйшышках на Літве адбыўся з'езд дэпутатаў польскага паходжання.** Выказаліся яны за адмену савецка-літоўскага пагаднення ад 10 кастрычніка 1939 г., за прынццё літоўскімі ўладамі прапанаванага дэпутатамі статусу польскага насельніцтва на Літве, а таксама за адмену ўсіх сталінскіх юрыдычных актаў, паводле якіх рэпрэсіраваліся палякі ў 30—50 гады.

**Прэзідэнт СССР Міхаіл Гарбачоў** выдаў дэкрэт аб правядзенні ваеннага парада ў Маскве, сталіцах рэспублік і іншых гарадах у гонар 73-ай гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі. У многіх гарадах былі дадзены заявы аб байкоце прэзідэнцкага дэкрэта.

**Сяляне блакавалі цукровы завод у Лапах.** Прычынай гэтага дэсперацкага кроку была цана буракоў. Дырэкцыя завода не згадзілася плаціць прапанаваную сялянам цану — 200 тысяч зл. за тону. У выніку двухбаковага кампрамісу ўстанавілі цану на 184 тысячы злотых.

### ПОЛЬСКА-ЛІТОЎСКІЯ РАЗМОВЫ

У ваколіцах Сейнаў і Пуньска ў Сувальскім ваяводстве кампактна пражываюць літоўцы. Там 3 кастрычніка сустрэліся прадстаўнікі ўрадаў Польшчы і Літвы. Літоўскі бок прадстаўлялі: міністр адукацыі і культуры Дарыус Куоліс, яго намеснік Вітаўтас Гаўдамавічус, старшыня Саюза палякаў на Літве Ян Сянкевіч, а польскі — віцэ-міністры культуры і мастацтва Міхал Ягелла і Стэфан Старчэўскі. Госці пазнаёміліся са становішчам літоўскага школьніцтва і культуры на гэтай тэрыторыі. Абодва бакі дамовіліся наконт далейшага развіцця асветы і культуры літоўскай нацыянальнай меншасці ў Польшчы.

Мясцовыя літоўцы паказвалі на цяжкасці, а нават на прыклады нацыянальнай дыскрымінацыі. На будынку ЛТСК з'явіўся надпіс „Літоўцы да газу", спальваюцца літоўскія нацыянальныя сцягі. Аб падобных фактах неталерантнасці расказваюць таксама палякі з Літвы.

Прысутныя на сустрэчы згадзіліся, што неабходна стварыць такія ўмовы, каб кожны, нягледзячы на нацыянальную прыналежнасць, адчуваў сябе добра на месцы пражывання.

## Праблемы меншасцяў на сумежжы

### Навуковая канферэнцыя ў Белавежы

З 3 да 5 кастрычніка ў белавежскім гатэлі „Іва" праводзілася навуковая канферэнцыя, прысвечаная вывучэнню шматлікіх грамадска-палітычных і эканамічных праблем, звязаных з пражываннем нацыянальных меншасцяў у варунках этнічнага і палітычнага сумежжа. Канферэнцыя была арганізавана Аддзяленнем палітычнай і эканамічнай рэгіянальнай геаграфіі Лодзінскага універсітэта. Дакладчыкі выступалі на англійскай мове.

Кіраўніку канферэнцыі, дацэнту Лодзінскага універсітэта Марку Котэру, удалося сабраць у Белавежы даволі прадстаўнічы форум як па „геаграфічнаму абсягу" дакладчыкаў, так і па мерытарычных пытаннях. Акрамя польскіх навукоўцаў з Лодзі, Кракава і Варшавы, у канферэнцыі прынялі ўдзел госці са Швецыі, Галандыі, Нямеччыны, Швейцарыі, Югаславіі, Італіі, Чэхаславакіі і Грузіі. Даклады, прадстаўленыя на канферэнцыі, закранaлі паасобныя праблемы існавання літоўскай нацыянальнай меншасці ў Польшчы і этнічную разнастайнасць у паўднёва-ўсходняй частцы краіны, лапландскае пытанне ў Скандынавіі, нацыянальныя праблемы ў швейцарскай Юры, фламандскае пытанне на бельгійска-галандскім сумежжы, славенскую нацыянальную меншасць у Італіі ды ў Аўстрыі, этнічныя праблемы на грузінска-турэцкім сумежжы. Сапраўды, бадай не знойдзецца краіны ў свеце, у якой у большым ці меншым маштабе не было б пытанняў аб нацыянальных і этнічных меншасцях. І праблемы там наогул падобныя да нашых тут, на беластоцкім панадворку. Дарэчы, запытае тут чытач, а ці былі на гэтай канферэнцыі нашы беларускія навукоўцы, якія прадставілі б беларускае нацыянальнае пытанне ў Польшчы? Не было, трэба тут сказаць адразу. Справа тут у чым? Людзі, займаюцца некатрымі беларускімі пытаннямі, ёсць і ў нашым асяроддзі. І арганізатары канферэнцыі ахвотна бачылі б іх у Белавежы з дакладамі. Але — бяда: нашы шматпаважаныя доктары і дацэнты ні х....ы па-англійску... І выходзіць так, што навука ў нас развіваецца, людзі атрымліваюць навуковыя ступені, спатыкаюцца на канферэнцыях, на якіх па-беларуску або па-польску, але ткнуць нос па-за сваё асяроддзе не могуць. А потым лямантуюць, што пра Беларусь і беларусаў нічога ў свеце не ведаюць...

Сітуацыю ў беларускім пытанні выратаваў у Белавежы журналіст „Нівы" Ян Максімюк. Сваё выступленне ён назваў усяго толькі інфармацыяй на тэму: „Палітычная актыўнасць беларускай нацыянальнай меншасці ў Беластоцкім краі ў пасляkамуністычны перыяд". Выступленне, у асноўнай сваёй частцы, прысвечана было выбарам 1989 і 1990 г.г. на Беласточчыне і нараджэнню беларускага палітычнага руху. Але яно было папярэджана змястоўнай інфармацыяй пра агульнае эканамічнае і культурнае становішча беларусаў. Пасля выступлення разгарнулася ажыўленая дыскусія, у якой Я. Максімюк мінут сорак адказваў на пытанні, тлумачыў і высвятляў праблемы агульныя і даволі падрабязныя, звязаныя з Беларуссю ўвогуле і з беларусамі на Беласточчыне ў прыватнасці. Тэма яго выступлення зацікавіла ўсіх і ўсхвалявала. З ёю прысутныя на канферэнцыі знаёміліся ўпершыню...

**В. Ляхоўскі**



 

# ПРЫСУТНАСЦЬ

студэнцкая старонка

## Успаміны, нацурболеныя дажджом

Суботні верасёвы надвячорак. Кіслы дождж ліе круглыя суткі. Добры час для паэзіі і ўспамінаў. І мне неадчэпна лезуць у галаву вобразы з сёлетняга вандравання па Сакольшчыне ды падкрынкаўскіх лясах альбо, калі сказаць афіцыйна, з рэйду беларускіх студэнтаў „Бацькаўшчына — 7".

Ліло, як сёння, нелітасціва і бесперапынна. Крыху сонца пабачылі мы толькі ў апошні дзень, па дарозе са слаўных мяччэццю і татарскім мінулым Крушынян у Мастаўляны — у напаўзабытае месца нараджэння Кастуся Каліноўскага. Здаецца, сам Бог зміласаваўся над намі, пабачыўшы нашу незвычайную заядласць у спазнаванні роднай зямлі. Некаторыя па два тыдні не бачылі роднае хаты, хаця яна не за гарамі. Але ў сярэдзіне ліпеня выпаў сапраўдны марафон студэнцкіх імпрэзаў: „Басовішча" і „Бацькаўшчына". Не кожны можа такое вытрываць, але мы ведаем, што „Białoruś to nie jest sprawa dla mięczaków", як па-п'янаму тлумачыў мой сябра калегам-палякам (не менш п'яным) у пакойчыку аднаго з акадэмікаў сталічнай Варшавы. Іншы, у сваю чаргу, прасіў тых, хто адпраўляўся дахаты пасля „Басовішча", сказаць бацькам, што патрыятызм не дазваляе яму прыехаць перад канцом „Бацькаўшчыны". Спагадлівыя бацькі ўсё зразумелі і нават перадалі яму пару кансерваў, цёплыя шкарпэткі ды трохі граша на зваротную дарогу.

Але і найбольшыя мацакі мусяць часам хоць на хвіліну перавесці дух. Таму 17 ліпеня на вечар у Саколку прыехаў толькі дзесятак асоб. Начавалі ў праваслаўнай плябаніі. Бацюшка Уладзімір Місяюк не толькі гасцінна нас прыняў, пачаставаў гарбатай, але наступнага дня, перад дарогай, і памаліўся за нас. Гэтак застрахаваныя, мы рушылі на шлях з вялікім энтузіязмам, тым больш, што на якую гадзіну выглянула сонейка. Але не паспелі мы выйсці за апошнія сакольскія платы, як зваліўся на нас патоп. Вяртацца не маглі — яшчэ дасвіткам пазваніў Валодзя Пац, да якога мы ішлі, што неўзабаве пачынае варыць абед для нас, ды яшчэ дамовіў нас на спатканне з бацюшкам у Самагрудзе, дзе хацелася паглядзець царкву. Хоч не хоч, пабрылі мы пад ліўнем у кірунку Кнышэвічаў. І тут, на шчасце, я не акажуся астатнім хамулай і адзначу неверагодную вытрымку тройкі дзяўчат, якія мужна прайшлі шлях гэтага самага цяжкога дня рэйду, не зважаючы на перуны і маланкі, што бахалі і зяхалі дзесьці за плячыма і па баках. Асяроддзе ведае іх як Бурылку, Вапністую і Ульку, а чытач, не азнаёмлены са студэнцкай штодзённасцю, мусіць задаволіцца ў гэтым месцы толькі іхнімі мянушкамі. Ульцы (сама яна са Шлёнска, генетычна ніякіх дачыненняў да беларусаў не мае) лёс вызначыў асаблівае месца падчас рэйду. Кіраўнічка школы ў Крушынянах надта ёй упадабала і чамусьці палічыла яе галоўным арганізатарам вандравання, таму Улька атрымала ключы, і толькі дзякуючы ёй знайшліся матрацы. Словам, яна была поўнай уладарыняй нашага цялеснага камфорту ў вёсцы Крушыняны.



*Царква ў Саколцы.* *Фота Я. Целушэцкага.*

Людзі пачалі з'язджацца ў Кнышэвічы. Не паспелі мы адтаяць у хаце Валодзі Паца, хаця ўжо падмялі дачыста падрыхтаваны Валодзінай мамай абед, як чуем, што з сакольскага аўтобуса выгружаецца вялізная грамада, дзесяткі тры з заплечнікамі. Ну, такога не чакаў нават заўсёды прадбачлівы Валодзя. Як накарміць гэтулькі гасцей? Але госці і самі былі забяспечаны ад усялякіх нягодаў. Закончыўшы вандроўку, удзельнікі рэйду праваслаўнай моладзі прыехалі да нас. І хаця ўсе яны маладзюсенькія (прыкладам, іхні праваднік Марко, які сярод студэнтаў лічыцца далёка не самым сур'ёзным суб'ектам), то на дарогу падрыхтаваныя былі няблага. Патрапілі нашыкаваць ежу, заспяваць, пасмяяцца, дый увогуле былі добрымі кампаньёнамі.

На шляху з Кнышэвічаў у Мастаўляны начавалі два разы — у Крынках і Крушынянах. Па дарозе наведалі два месцы, істотныя для нашай заходнебеларускай гісторыі: Гаркавічы і Грыбоўшчыну. Першая вёска дала, бадай, рэкордную колькасць камуністычных дзеячоў, адзін з якіх дайшоў ажно да прэзідэнтуры ў БССР, але ягоны музей у роднай вёсцы расківае ад вады, што цячэ ў сярэдзіну праз гнілы дах. Час такі настаў, што загніваюць камуністы ды іхнія музеі. Ды, зрэшты, напляваць на той музей, калі падобнае робіцца з жывым. Здаецца, уся ваколіца там аджыла свой век. Пенсіянеры, старыя кавалеры ды п'яніцы. Хаты, хлявы, клуні — як сцэнаграфія з фільмаў пра рэвалюцыю. Як з пачатку нашага стагоддзя. А мы ж ужо памалютку збіраемся яго канчаць.

У Грыбоўшчыне прарок Ілля (так называлі яго людзі) яшчэ пры цары паставіў царкву, а потым, ужо за санацыі, пачаў будаваць сталіцу свету — Вяршалін. Меў сваіх прыхільнікаў і аднадумцаў па ўсёй Гродзеншчыне і Беласточчыне. Загінуў пры саветах. У Вяршаліне, які зарос лесам, цяпер дзве хаты. У адной з іх жыве Павел Валошын. Ён паказаў нам здымкі прарока Іллі, апавядаў гадзіны дзве пра падзеі дапатопнай нам даўніны ды пра самога будаўніка Вяршаліна.

У Крынках Сакрат Яновіч, пабачыўшы нас, мокрых як варон, замітусіўся і давай насіць слоікі з малінавым варэннем. Ратаваў нас ад прастуды. А паколькі да лекаў дабаўляецца яшчэ і вітаміна, то скаштавалі мы і віна Сакратавай вытворчасці. Пасля нас, як мяркую, у кладоўцы Сакрата запанаваў сум, як пасля пераходу напалеонаўскіх войскаў праз Крынкі, пра які апавядаў нам гаспадар, водзячы нас пад дажджом і ветрам па крынкаўскай ваколіцы і гісторыі.

Гляджу праз акно. Незвычайна ціхі вечар, не шамацяць лісты, не плюскаюць кроплі ў люстры баюраў. Як і тады, у Мастаўлянах, калі вогнішча сыпала мірыядамі іскраў у захмуранае, але суцішанае неба, калі песні неяк не хацелі настроіцца на бадзёры лад, калі галовы нядзельна хіліліся на калені дзяўчатам. Эля Бзык іграла на гітары. Ужо засвоіўшы рэпертуар „Басовішча". Да мяжы імперыі метраў дзвесце. Мы разам з Эляй спяваем „Калі імперыя знікне" з рэпертуару „Уліса". Потым яшчэ раз, на поўны голас. Гэтая балада становіцца музычным хітам „Бацькаўшчыны — 7".

Цяпер, перад сном, успамінаю 1984 год, першае вандраванне „Бацькаўшчына". Тады самай папулярнай песняй былі „Васілёчкі". А самым сучасным беларускім гуртам, калі не памыляюся, лічыліся ў нас „Дубіны".

**Мікола Ваўранюк**

# Рэфлексіі са Скарынінскіх святкаванняў

Мне пашчасцілася ўдзельнічаць у святкаванні 500-годдзя нараджэння Францыска Скарыны на Беларусі. Гэта было велічнае мерапрыемства сучаснага беларускага адраджэння. Вучоныя, пісьменнікі, бібліятэкары, дзеячы культуры, улады зрабілі ўсё, каб падняць спадчыну Скарыны, папулярызаваць яе і павязаць з адраджэнскімі плынямі. Плакаты, сцяжкі, значкі, медалі, выдавецтвы на чале з дасканала апрацаваным энцыклапедычным даведнікам „Францыск Скарына і яго час", упарадкаванне гістарычных месц, уключэнне лепшых мастацкіх калектываў, прысутнасць замежных гасцей прыдалі гадавіне велічны характар, аб чым чытачоў ужо інфармаваў Ян Чыквін. Упершыню ад звыш паўстагоддзя беларускія афіцыйныя ўлады сталічнага Мінска і Полаччыны, Акадэміі Навук і Міністэрства культуры, дакладчыкі і канферанс'е загаварылі на сваёй роднай мове. Ці свята станецца момантам вялікага моўнага пералому — адказаць цяжка. Я асабіста гэтага не спадзяюся, таму што сучаснае пакаленне атрымала адукацыю на рускай мове і заўсёды будзе яе лічыць багацейшай ад беларускай, вясковай. Яшчэ гадамі працягнецца пераходны перыяд двухмоўя. Пераломнага працэсу не зразумелі, а можа не захацелі зразумець прадстаўнікі суседніх народаў. Вучоныя з Расіі гаварылі толькі на рускай, з Польшчы — толькі на польскай мовах, нават з Украіны — на ўкраінскай. Але ўжо госці з заходніх краін выступалі ў большасці на беларускай мове. Яны змаглі ёю авалодаць, падрыхтаваць даклады і паслугоўвацца нават у штодзённасці. Іншым таксама не былі патрэбны перакладчыкі. Святочна можна было ўшанаваць мову Вялікага Асветніка, а яго народу зрабіць хаця б дружалюбны жэст раўнапраўнасці. Моўныя ціскі суседзяў яшчэ не паломаны.

Нашыя беластоцкія пісьменнікі наведвалі выстаўкі, бібліятэкі, музеі, кніжныя кірмашы, а я — выступленні мастацкіх калектываў. Толькі ў адным дні 8 верасня ў Полацку глядзеў іх адзінаццаць гадзін. Гэта былі непаўторныя відовішчы ў многіх месцах горада. Акадэмічны калектыў з Мінска і вядомыя ўжо нам калектывы з Гродзеншчыны змяняліся дасканалымі полацкімі. Вось асноўныя з іх: дзіцячыя ансамблі „Іскаркі", „Камарыкі" і „Таўкачыкі", хоры і аркестры народных інструментаў, хор „Дубравушка", ансамблі „Росіца", „Вясна", калектывы „Свята", „Харошкі", цыганскі калектыў, а таксама некалькі калектываў з абласнога Віцебска, хор „Лютня" з Польшчы і многа іншых.

Здаецца, што мастацкі рух на Беларусі перажывае нейкую метамарфозу. Знікае мастацкі сум, статычнасць, сцэнічнае ўбоства. Яго месца займае вясёласць, дынаміка, дасканалы народны гумар (палітычнага не было зусім!), трапнае спалучэнне музычных традыцыйных і сучасных электронных інструментаў. І яшчэ адна заўвага: калі раней існавалі вялікія акадэмічныя калектывы і тыповая аматаршчына, дык цяпер на іх месца прыйшлі добра падрыхтаваныя эстрадныя групы. Бадай найслабей выступілі „Песняры", якія вербальнай музыкай заглушылі да такой ступені сваю папярэднюю народнасць, што частка гледачоў пачала пакідаць стадыён. Слаба выпала польская „Лютня", якая прыехала з недастасаванай да Скарынінскага свята праграмай.

Кароткі візіт не дазволіў глыбей запазнацца з адносінамі ўладаў і грамадзян да рэлігійнага адраджэння. Здаецца, што зараз пачынаецца ціхая барацьба праваслаўя, каталіцызму і уніяцтва за няверныя душы, а ўлады да гэтых пытанняў адносяцца даволі абыякава. Праўда, прадстаўнікі Праваслаўнай царквы запрашаліся ў прэзідыумы ўрачыстасцей, выступалі на рускай мове, але далей удзелу ў святкаванні не прымалі. Каталіцка-уніяцкіх прадстаўнікоў там не было, але яны ўдзельнічалі ва ўсіх мерапрыемствах „разам з народам" і паслугоўваліся беларускай мовай. Нехта ва ўсім гэтым павінен прайграць. Вельмі сімпатычная была рэакцыя полацкай тысячнай грамадскасці, сабранай на святочным вечары ў Наваполацку. Яна вельмі энтузіястычна ўспрыняла ўсё выступленне на беларускай мове прадстаўніка Вялікабрытаніі, асабліва яго заклік: „Не дапусціце да таго, каб беларусы, іх мова і культура загінулі так, як уэльсцы і іншыя малыя народы маёй краіны".

Пасля яго выступіў на рускай мове прадстаўнік Праваслаўнай царквы. Не буду называць яго прозвішча і пасады, таму што аўдыторыя зарэагавала ад першага яго сказа вельмі негатыўна і да канца не супакоілася. Падумаеце, атэісты? Не, мова.

У адрозненне святар-вучоны з Полацка падчас сесіі ў Акадэміі Навук у Мінску выступіў з даволі кантраверсійным, але пераканаўчым дакладам (адзіны на беларускай мове). На яго думку, Скарына ўзгадаваўся ў беларускім праваслаўным асяроддзі і называўся Георгі. Таленавіты хлапчук і яго апекуны не лічылі на поспехі гэтага схізматыка ні ў Кракаве, ні ў Італіі, дзе бушавала інквізіцыя, і таму на Захад выехаў ён як Францішак. Але дасягнуўшы мэту, сусветную славутасць, вярнуўся на Беларусь служыць свайму народу.

Адлегласць у часе — вялікая, але мне насоўваецца аналогія сцэнарыя многіх нашых сучасных інтэлігентаў.

Наведалі мы Мінскі матавелазавод, які зараз належыць да ліку найвялікшых прадпрыемстваў сталіцы. Выпускае ён 850 тысяч веласіпедаў і 250 тысяч матацыклаў класа 125 $см^3$ розных мадэляў да спартыўных уключна. У нас у продажы былі найбольш устарэлыя танныя мадэлі. Гэта перспектыўны завод, мае добрае абсталяванне, кадры, збыт вырабаў, а для працаўнікоў разбудаваную сацыяльную інфраструктуру. Але ў бягучым годзе рвецца каапрацыя. Усе рэспублікі робяцца ўжо вельмі ж незалежнымі. Прадукцыю завода — прымаюць, але дэталяў і сыравіны не абяцаюць. Пагражае зніжэнне вытворчасці.

Пабывалі мы таксама ў мінскай школе № 40. Даведаліся, што навучанне ў пачатковых класах переведзена ўжо на беларускую мову. І ў старэйшых класах абмежавана руская і пашырана навучанне роднай мовы. Аднак іншыя прадметы вучні вывучаюць на рускай мове. Агледзелі прадметныя кабінеты, спартыўныя залы, гаварылі з настаўнікамі і вучнямі. Цікавіліся таксама падрыхтоўкай дапаможнікаў да пераходу ўсяго навучання на беларускую мову.

У цэлым складваецца ўражанне даволі станоўчага дзеяння ў напрамку беларусізацыі навучання. Я разумею нашыя эмацыянальныя выказванні на тэму роднай мовы таму, што нам як нацыянальнай меншасці без сваёй мовы пагражае хуткая асіміляцыя. На Беларусі пагрозы такой няма. Ужыванне рускай мовы не выклікала адмовы ад нацыянальнай беларускай прыналежнасці. Зразумела, лепш калі нацыянальнасць замацоўваецца роднай мовай і ўсім культуратворчым працэсам. Многагадовае ігнараванне роднай мовы пачало перамагацца, але гэта складаны і доўгатрывалы працэс. Нам, на Беласточчыне, трэба больш разважліва адносіцца да адраджэнскіх плыняў на Беларусі.

**У. Юзвюк**

# Беларускае літаратурнае аб'яднанне — самастойная арганізацыя

Беларускае літаратурнае аб'яднанне „Белавежа", старэйшая літаратурная група ў Польшчы, была створана ў 1958 годзе. Некалькі гадоў аб'яднанне працавала пры рэдакцыі „Нівы". Ад 1962 года сталася яно адной з галін дзейнасці ГП БГКТ. Усе намаганні праўлення аб'яднання на працягу мінулага трыццацігоддзя, скіраваныя ў напрамку атрымання самастойнасці нашай літаратурнай арганізацыі, канчаліся адмовай з боку ўлад.

ГП БГКТ у шасцідзесятыя-сямідзесятыя гады атрымоўвала фінансавыя сродкі на выдавецкую і дакладчыцкую дзейнасць. Даволі рэгулярна выдаваліся індывідуальныя зборнікі „белавежцаў", літаратурныя альманахі, праводзіліся ў беларускім асяроддзі на Беласточчыне аўтарскія сустрэчы. У васьмідзесятыя гады, калі Беларускаму таварыству абмежавалі фінансы, пагоршылася і выдавецкая дзейнасць.

Нягледзячы на ўсе цяжкасці і перашкоды, беларускі літаратурны рух у Польшчы мае сваю ўнутраную дынаміку. З'ўляемся літаратурнай групай, якая мае ўжо паважныя дасягненні. Восем „белавежцаў" на аснове выдадзеных кніжак прынята ў Саюз польскіх пісьменнікаў. Многія чытачы ў Польшчы і за мяжою ведаюць індывідуальныя зборнікі, літаратурныя альманахі і літаратурныя часткі ў беларускіх календарах. Пра нашых аўтараў ёсць артыкулы ў энцыклапедыях літаратуры і мастацтва на Усходзе і на Захадзе.

У кантэксце змен, якія адбываюцца ў краіне, даспявала ідэя атрымання самастойнасці нашай літаратурнай арганізацыі. **14 жніўня г.г. Ваяводскі суд у Беластоку зарэгістраваў Беларускае літаратурнае аб'яднанне як юрыдычную самастойную адзінку,** якая мае права да дзейнасці, прадбачанай прынятым статутам. Беларускі рух у Польшчы ўзбагаціўся яшчэ адной, тым разам творчай арганізацыяй. Будзе яна садзейнічаць далейшаму развіццю і ўзбагачэнню творчых здабыткаў беларускага асяроддзя, у супрацоўніцтве з беларускімі і польскімі літаратурнымі арганізацыямі.

Як кожная творчая арганізацыя, Беларускае літаратурнае аб'яднанне патрабуе на сваю дзейнасць фінансавых сродкаў. Спадзяемся іх не толькі з боку Міністэрства культуры і мастацтва Польшчы, але таксама Міністэрства культуры БССР, таварыстваў „Радзіма" і „Бацькаўшчына" і ўсіх людзей добрай волі, а асабліва тых, якім ляжыць на сэрцы развіццё беларускай культуры і літаратуры ў Польшчы.

Праўленне Беларускага літаратурнага аб'яднання прыняло пастанову праводзіць штомесячныя беларускія літаратурныя сустрэчы.

Першая сустрэча (з сімвалічным пачастункам) запланавана на дзень 21 кастрычніка г.г. (нядзеля) у 11 гадзін, у памяшканні ГП БГКТ, Беласток, вул. Варшаўская 11.

**Віктар Швед**

 

# Чыквіну трэба ворага

Праваслаўнаму рэдактару польскага часопіса „Тыгоднік Падляскі“ Яўгену Чыквіну трэба ворага! Так я зразумеў надрукаваную ў апошнім нумары публікацыю „Паляпшальнікі Царквы“, напісаную яго каталіцкай жонкай Жултоўскай, вельмі дзіўным адвакатам праваслаўя. Абураецца яна на папскія (уніяцкія) тэндэнцыі ў Беларускім Народным Фронце „Адраджэньне“, які змагаецца з камунізмам у Беларускай ССР. Але, каб не выйсці на няпрошанага саветамі заступніка з Польскай Рэчыпаспалітай, яна мабілізавала і маё імя ў шэрагі процiправаслаўных энтузіястаў усходняга каталіцтва. Не маючы чаго лепшага пад рукою, Жултоўская паслужылася супроць мяне адарванымі цытатамі з майго выказвання, якое змясціў неяк увесну салідарніцкі „Тыгоднік Беластоцкі“ (знаходзіцца ў бібліятэках). Вядома, і не заікнуўшыся яна пра сэнс таго выступлення. Гаварыў я тады менавіта, што рост сектанцтва ў нашым асяроддзі вядзе з сваіх фінальных вынікаў да акаталічвання беларускага праваслаўнага насельніцтва. Гэтае пашырэнне пратэстантызму ў нас тлумачу я мяккасцю самога праваслаўя як такога, калі раўняць яго з вельмі дысцыплінаваным арганізацыйна і духоўна агрэсіўным каталіцызмам. Кожны, хто хоча, чуе, што гавораць у пропаведзях нашы айцы, і што — ксяндзы. Больш тут разводзіцца я не мушу.

Жултоўская назначыла мяне і дыверсантам, які перашкаджае атрымліваць долары ад эмігратаў на пабудову беластоцкіх цэркваў. У доказ гэтага прыводзіць яна фразу з непадпісанага ліста з Беласточчыны, які апублікавала газета „Беларус“, што выдаецца ў Нью-Йорку. Яна — слухайце! — лічыць, што гэта я яго аўтар, а не хтосьці — напрыклад — з тых айцоў, якія ў апошні год-другі пакінулі свае парафіі і проста ўцяклі ў Амерыку.

I яшчэ адзін закід у мой адрас: я не звязваю нацыянальнасці з веравызнаннем так, як гэта заведзена палякамі (паляк-католік). Думаю, што мы, беларусы, не павінны ісці следам за падказамі Жултоўскай. Нават наша партыя, Беларускае Дэмакратычнае Аб'яднанне, зусім разумна не ўстанавіла ў сваім Статуце нацыянальна-беларускага крытэрыю членства. Мы — дэмакраты!

Пра арыентацыю Жултоўскай у беларускіх праблемах красамоўна сведчыць і тое, што так і не здолела яна правільна падаць назвы ані Беларускага Дэмакратычнага Аб'яднання, ані Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне“. Накруціла-намалола!

Яўген Чыквін як шэф „Тыгод-

(Працяг на стар. 7)

## МОЙ ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ

Так можна каратка ацаніць нататку Васіля Петручука „У нас ніхто не пытаўся“, змешчаную ў 36 нумары „Голасу Радзімы“. І ясна, што я і туды, ў Мінск, у рэдакцыю гэтай газеты, выслаў адгалоску, хаця ведама, што там ніхто яе не надрукуе. Думаю, што не страчу гонару, калі ізноў адазвуся да „Нівы“, каб даць аплявуху В. Петручуку, які заўзята бароніць сталінізм, партыю і ўсіх тых зладзеяў, якія давялі нашу краіну да руіны. Дык няхай ён ведае, што з пустой кружкі нічога не нальеш; так ёсць і з урадам Мазавецкага: камуністы агалілі яго да самага дна і вы. дурні, „Салідарнасць“, направляйце... Але як?

Цяпер варта пісаць у „Ніву“, бо цікавая, а нават вельмі. Дасканала пішуць і праўдзіва С. Яновіч, А. Барскі, Ян Чыквін (які, на жаль, вельмі рэдка піша) і іншыя. Але калі ўжо адазвецца В. Петручук, дык адразу засмуродзіць цэлую „Ніву“ сваім кансерватызмам і маной і яму яшчэ сняцца сны мінулага, калі ён быў „вялікім чалавекам“. Але пэўнае тое, што камунізм ужо ніколі не вернецца да нас, бо гэта д'ябальскае вучэнне, так як у „Ніву“ не вернуцца працаваць ізноў старыя сталіністы.

Цяпер вярнуся да нататкі Петручука з „Голаса Радзімы“ „У нас ніхто не пытаўся“. Хто чытаў яе, дык адразу пачуе, як у ёй пахне варожасцю, нацыяналізмам і нянавісцю да нашых перамен і да новых улад. І гэтым ён яшчэ больш сее варожасць у нас на Беласточчыне паміж беларусамі і палякамі, насяляючымі гэту тэрыторыю. Адносіны тут і так не найлепшыя і навошта масла даліваць да агню? І няхай ведае і тое, што супраць ветру не падуе. Петручук не можа дараваць, што Беласточчына апынулася на тэрыторыі Польшчы, а не БССР. Але няхай ён правядзе сандаж і запытаецца нашых людзей, хто з іх ахвотны прылучыцца да БССР і жыць па-савецку, дык адказ будзе ў 98 працэнтах не ў яго карысць і гэты „працэнт“ людзей рашуча заявіць, што іх краінай з'яўляецца Польшча і, хаця нашыя людзі ў большасці выпадкаў несвядома скамунізаваны (але гэта сведчыць аб іх тупасці і паралітычным маразме), аднак да савецкага „раю“ яны не спяшаюцца, аб гэтым павінен ведаць Петручук. Бо тут, на Беласточчыне, яны радзіліся і разбагацелі, амаль кожны селянін мае свой трактар, машыны і дасканалыя дамы і сельскагаспадарчыя будынкі і жывы інвентар. А што мае беларускі калгаснік у БССР? І самае галоўнае: мы не адракліся сваёй роднай мовы і ніхто з нас не думаў і не думае асіміляваца, гэта значыць апалячыцца. А што тварылася ў „слаўтым“ БССР у гэтым напрамку, хто там пачуе на вуліцы родную беларускую мову? Усе чырыкаюць па-расейску. Не ганьба то? Нас жменька беларусаў на Беласточчыне ў Польшчы, але мы больш маем беларускіх школ, чым цэлая БССР іх мае, насельніцтва якой складае каля 10 мільёнаў. Ёсць у нас таксама кафедра беларускай філалогіі ў Варшаве, якую ўзначальвае вядомы літаратар і вучоны Алесь Барскі. Зараз будзе перададзены ў карыстанне Беларускі музей у Гайнаўцы. І гэта ў краіне „праклятых“ палякаў. В. Петручук не мае ніякіх маральных правоў, каб свае нацыянальныя погляды і думкі прэзентаваць ад імя ўсяго нашага беларускага народа Беласточчыны, які нібы „ахвотны“ быў застацца за мяжою БССР тады, зараз пасля вайны. Толькі бяда, што нас сілай раздзялілі паміж сабою, плача Петручук. Аднак нашы людзі не забыліся гэтага „вераснёўскага світанка“ 1939 года і час савецкай акупацыі да 22 чэрвеня 1941 года, што бальшавікі фальшыва называлі і называюць „вызваленнем Заходняй Беларусі“, і іх вяроўкай не зацягнеш у бальшавіцкі „рай“, а калі Петручуку не падабаецца, што ў нас дзееца, і калі ён такі гарачы патрыёт (а ў сапраўднасці сталінскі фанатык), дык ён павінен даўно выехаць ад гэтых „праклятых“ палякаў і пасяліцца на стала ў Савецкай Беларусі — у „раі“ — і там весці сваю прапаганду і выхваляць сталінскую сістэму. Ніхто яго ў нас не трымае сілком. І дзіўна, лае ён „Салідарнасць“ і палякаў, і яму за гэта волас з галавы не спаў, дык няхай бы ён за мяжою спрабаваў нешта падобнае рабіць і лаяць камуністаў; я ўпэўнены, што за такое адведаў бы ён „белых мядзведзяў“ альбо дом вар'ятаў — наш герой і абаронца беларушчыны. Але няхай едзе. Шлях свабодны!

Я згодны з ім, што за санацыі мы жылі бедна, а нават вельмі. Але з голаду ніхто не паміраў. А як жылі людзі ў БССР у той час, перад вайною? У нас нявінныя не сядзелі па турмах, а што было за мяжою, у цэлым СССР? Чаму Петручук ніколі не ўспамінае „Курапаты“ і іншыя месцы злачынстваў сталінізму? Калі ён сябе лічыць літаратарам, дык чаму ён ніколі не заікнецца, аніводным словам аб беларускіх пісьменніках, якіх сталінская сістэма звяла з белага свету? А было іх каля 3000 асоб і пасля гэтай „ачысткі“ афіцыяльна выступала ў беларускай літаратуры каля 30 асоб. Найлепшых знішчылі Сталін і яго памагатыя. Дык Петручуку, відаць, гэта не па душы. А тое, што ў нас разбураюцца помнікі савецкім воінам, а таксама помнікі розным камуністам-дзеячам, дык палякі (не ўсе) навучыліся гэтага „рамясла“ іменна ад бальшавікоў, якія пасля 17 верасня 1939 года паказалі сваё „стаханаўства“, бо маланкава разбуралі ўсё тое, што было польскае: помнікі, прысвечаныя польскім воінам, Пілсудскаму і іншым дзеячам, могілкі-цвінтары, разбуралі касцёлы, альбо перамянялі тыя святыні ў канюшні... А пасля была дэпартацыя ў Казахстан і Сібір соцень тысяч палякаў, а таксама беларусаў, а пасля Катынь... да якога камуністы зацята не прызнаваліся, звальваючы ўсё гэта на гітлераўцаў, нібы гэта іх правакацыя. А тут, аказваецца, абое яны рабое.

Вельмі цешуся, што „Ніва“ адрадзілася і працуюць у рэдакцыі людзі новыя, прагрэсіўнае пакаленне і вельмі добра, што адыйшлі ад яе тыя, што выхвалялі на першай старонцы газеты сакратароў партыі, начальнікаў гмін і іх нахлебнікаў — людзей, якія нашу краіну давялі да руіны. Гэта мой пункт гледжання.

**Мікалай Панфілюк**

## Дух сталінізму, пагарды і хлусні

## ДОЎГАЕ ПРАЦАВІТАЕ ЖЫЦЦЁ



Пра Надзю і Амяльяна Руско з Падалянаў каля Белавежы „Ніва“ ўжо пісала ў № 39. Здымак да гэтага матэрыялу трапіў да нас са спазненнем, але друкуем яго з вялікай прыемнасцю. Надзі і Амяльяну разам 177 гадоў — ёй 83, яму 94. Супольна яны пражылі 62 гады.

— Часта бывае ўжо цяжка, асабліва калі нездаровіцца. Але калі недуга дзесь адыдзе, прыгрэе сонца, зноў хочацца жыць, бо жыццё — гэта вялікі дар, — кажуць Амяльян і Надзя Руско.

„Ніва“ жадае гэтым сімпатычным людзям далейшага шчасця і добрага здароўя.

Фота В. Рынажэўскага



 

# З Янкам Запруднікам пра „Беларуса" і пра „Ніву"

(Працяг са стар. 1)

**толькі пішаце тэксты ў газету, але і робіце там усё іншае?**

— Так, вядома, сам я перапісваю ўсе тэксты, г.зн. раблю за машыністку. Сам макетую газету, раблю карэкту, а таксама і выконваю функцыю сакратаркі.

— ?!

— Маю тут на думцы перш за ўсё тое, што рассылаю па пошце „Беларуса" многім установам, сам купляю і наклейваю маркі і г.д. Між іншым, прысылаю яго асабіста і „Ніве". А наогул у Польшчу высылаю 30 экземпляраў.

**— Надта хочаце вы тут, у Амерыцы, застацца беларусамі, але ніколі не думала я, што ўсё ў газеце Вы робіце адзін!**

— Чаму ж адзін?! Іншыя таксама пішуць. Вось хаця б Зора Кіпель вельмі мне дапамагае. Аднак, хачу заўважыць, што ўсе мы ў газеце працуем грамадскім чынам. Ніхто ніякіх грошай нам не плоціць, гэта наша выключна грамадская праца, наш унутраны абавязак. Газета ж гэта вельмі беларусам патрэбна!

**— А як выглядаюць справы друку? Гэта ж каштуе нямала, а яго ж Вы, бадай, не ў стане выканаць самі?!**

— Ну, на гэта мы маем грамадскія сродкі з паасобных ахвяраванняў нашых чытачоў, а да таго ж яшчэ ёсць грошы, якія ўплываюць з падпіскі. Прозвішчы ахвярадаўцаў і сумы ахвяраваных грошай мы падаем у нашай газеце.

**— Скажыце, калі ласка, ад калі выходзіць газета „Беларус"?**

— Ад 1951 года, хутка ўжо будзе 40 гадоў, як паявілася яна ў друку. Але я рэдагую яе ўсяго ад 1989 года, ад таго часу, калі памёр не папярэдні рэдактар Станіслаў Станкевіч.

**— На сустрэчы беларусаў у Кліўлендзе мне давялося гутарыць з некаторымі беларусамі з Канады. Цікавая справа, большасць з іх лічыць менавіта газету „Беларус" за сваю газету, хаця ў Канадзе таксама выдаецца беларуская газета.**

— Ну, што ж, вельмі нас цешыць факт, што наша газета трапляе да сэрцаў і тамашніх беларусаў. Выдаецца яна для ўсіх, хто цікавіцца станам беларускай справы, прагрэсам беларускага жыцця. Для тых, хто зацікаўлены ў тым, каб Беларусь жыла і адраджалася.

**— Чытаючы вашу газету, я заўважыла, што большасць інфармацый у вас абапіраецца на матэрыялы з беларускага друку.**

— Вядома, мы сочым за беларускім друкам. Вось цяпер я выпісаў цытату з артыкула З. Пазняка, у якім аўтар інтэрпрэтуе ленінізм як тэарэтычнае абгрунтаванне тэрору. Падмацаваў фактамі з падзей на Беларусі, пра якія было ў тэлебачанні...

**— Наколькі нам вядома, многія аўтары з Беларусі прысылаюць вам свае інфармацыі?..**

— Так! Гэта перш за ўсё інфармацыі, якім няма ходу ў Савецкай Беларусі.

**— Чаго найчасцей датычаць вашы адрэдакцыйныя матэрыялы?**

— Гэта матэрыялы пра беларусіку ў заходнім свеце. Наша газета імкнецца ўсебакова адлюстроўваць дзейнасць беларускай эміграцыі. І ёсць яшчэ адна вельмі важная справа: „Беларус" на сваіх старонках хавае нябожчыкаў. Гэта свайго роду грамадскі могільнік людзей, якія нешта зрабілі ў беларускай справе. Мы з вялікай пашанай адносімся да матэрыялаў у раздзеле „Некралогі". Рэдакцыя „Беларуса" мае сваю картатэку некралогаў. Вось, напрыклад, калі нядаўна Барысу Сачанку спатрэбіліся дадзеныя адносна некаторых памерШых беларускіх эміграцыйных пісьменнікаў, картатэка адразу дала доступ да дадзеных аб тых, хто, дзе і калі памёр. У даны момант рыхтуецца камп'ютэрны паказнік матэрыялаў „Беларуса".

**— Якія мэты рэалізуе газета „Беларус"?**

— Наша газета хоча быць рэгістратарам, крыніцай беларускага жыцця. Хоча дакументаваць усё, што адбываецца ў беларускім жыцці наогул. Калі атрымліваем лісты з Беларусі, тады адчуваем, што з'яўляемся як бы мастом паміж суродзічамі і эміграцыяй.

**— Гэта ж таксама галоўныя мэты і рэдакцыі „Нівы"! А якія Вашы адносіны да нашай газеты?**

— „Ніва" менавіта была заўсёды такім мастом, зрэшты, з'яўляецца яна ім і цяпер. „Беларус" жа гэта як бы яе працяг далей на Захад; займаецца ён прадаўжэннем тых кладак, якія яна збудавала. Лічу на дружбу!

**— І мы таксама!**

**Гутарыла Ада Чачуга**
**Фота аўтара**

## ЧЫКВІНУ ТРЭБА ВОРАГА

**(Працяг са стар. 6)**

ніка Падляскага" і парламенцёр з камуністычнага дазволу чамусьці ўпадабаў мяне чорнай любоўю... У мінулую выбарчую кампанію ў Сойм і Сенат ачарняў ён маю кандыдатуру ў парламент, пляткуючы, што я — агент Салідарнасці. Які з мяне быў той агент, усе бачаць цяпер, калі Салідарнасць стала ўладарыць дзяржаваю. Але, во, ідуць-набліжаюцца новыя выбары, у якіх я зноў, можа быць, буду прымаць удзел ад імя беларускай нацыянальнай меншасці... На ўсялякі выпадак, „Тыгоднік Падляскі" апераджае падзеі: салідарніка з мяне ўжо няма як зрабіць, дык давайце, хлопцы-братчыкі, прышыем яму, Яновічу, варожасць праваслаўю. Выдумка цэльная: які ж беларускі чалавек аддасць свой голас на гэтага кандыдата ў каталікі-уніяты?!

Чыквіну і яго камандзе трэба, каб нашы людзі сварыліся: хто беларус, а хто — не, хто праваслаўны, а хто — падшыванец і так далей. Як год таму назад, калі яны нават варшаўскага ўкраінца Мартынюка прапіхалі ад Беластоцкага Краю ў Сойм, каб толькі не беларуса! Гісторыя, відаць, паўторыцца, але на гэты раз як камедыя.

**Сакрат Яновіч**

## ЧАРГОВЫ ГРАБЕЖ

І зноў праваслаўная грамадскасць пацярпела страту. Ноччу з 18 на 19 верасня г.г. зладзеі абакралі царкву св. Апосталаў Пятра і Паўла ў Лідсбарку-Вармінскім. Была ўкрадзена ікона памерамі 120 см × 124 см, намаляваная на палатне з выявай Вазнясення Хрыстова. Прапала таксама дарахраніцельніца з жоўтага металу вышынёю каля 50 см. Злачынцы ўвайшлі ў царкву праз акно (2 м над зямлёю), якое было застаўлена фанерай. Хочацца мне спытацца ў святара з Гурова-Ілавецкага, які апякуецца храмам у Лідсбарку-Вармінскім, чаму не забяспечаны вокны ў царкве і чаму не інвентарызаваліся каштоўныя прадметы?

**Андрэй Гаўрылюк**




**З ДАКУМЕНТАЎ ГЕНЕРАЛЬНАГА ШТАБА (ІІ АДДЗЕЛА), ВАРШАВА, 1928.**

— 27 —

Мэтай прыведзенай адозвы, у многіх фрагментах недакладнай, было імкненне да таго, каб супрацьставіцца бальшавікам, якія ўвялі на Беларусі саветы пад постацыю рабочых і сялянскіх радаў. Пасля аб'яўлення Устаноўчай Граматы беларускі ўрад спрабаваў выехаў у Вільню, аб чым заявіў публічна. Разам з наступам бальшавікоў на захад, беларускі ўрад пераехаў з Вільні ў Гродна, а ў канцы ў Чэшскую Прагу.

Не будучы ў стане выконваць свае абавязкі, беларускі ўрад стараўся за мяжой развіваць прапаганду, каб зацікавіць Заходнюю Еўропу беларускімі справамі.

Захады гэтыя імкнуліся да таго, каб дзяржавы прызналі беларусам права на незалежны дзяржаўны быт. Луцкевіч як прэм'ер-міністр беларускага ўрада ездзіў у Парыж, дзе на мірнай канферэнцыі прадстаўляў мемарыял у беларускай справе.

Беларусы стараліся развіваць агітацыю таксама ў другіх еўрапейскіх сталіцах, разлічваючы галоўным чынам на Берлін, не мелі аднак адпаведных зносін на міжнародным форуме, не было фондаў на прапаганду і таму не маглі развіваць дынамічныя дзеянні.

### РАЗДЗЕЛ XV

**Заняцце бальшавікамі Мінска. Пазіцыя беларускіх эсэраў. Абвяшчэнне Савецкай Беларусі. Урад Жылуновіча. Далейшае наступленне савецкай арміі на захад. Арганізаванне савецкай камуністычнай сістэмы на Беларусі. Маніфест ад 2.I.1919 года. Аб'яднанне Беларускай і Літоўскай Рэспублік. Савецкая сельскагаспадарчая рэформа.**

Дня 9.XII.1918 года бальшавікі занялі Мінск. Першым крокам камісараў было аб'яўленне аб ліквідацыі беларускага ўрада абшарнікаў — Беларускай Рады. Члены беларускага ўрада і Рады Рэспублікі былі аб'яўлены ворагамі, пазбаўлены правоў, падлягалі выдачы ў рукі савецкіх уладаў. Апрача гэтага, бальшавікі ўсюды пачалі ствараць органы савецкай улады.

Левыя з Рады Рэспублікі і ўрада Луцкевіча і беларускія эсэры не выехалі з Мінска.

Некаторыя члены Рады і ўрада былі дэманстрацыйна арыштаваны, але назаўтра былі выпушчаны на свабоду. Да такіх належалі: Серада — былы старшыня Народнага сакратарыята, Мамонька, Бадунова, Вацлаў Іваноўскі (міністр асветы ва ўрадзе Луцкевіча) і Трэпка.

Дня 12.XII.1918 года (ст.ст.) у Смаленску ўрачыста была абвешчана Савецкая Сацыялістычная Беларуская Рэспубліка. Быў сфармаваны ўрад, аднак часовы, які існаваў толькі да 27.II.1919 года ў наступным складзе:

1. Жылуновіч — старшыня народных камісараў,
2. Чарвякоў — камісар асветы,
3. Дыла — камісар працы,
4. Чарнушэвіч — камісар сацыяльнага забеспячэння,
5. Фальскі — камісар замежных спраў,
6. Шантыр — камісар па справах нацыянальнасцей,
7. Пузыроў — камісар здароўя,
8. Квачанюк — камісар справядлівасці.

Усе названыя члены ўрада былі беларусамі-камуністамі. Апрача іх, у склад урада ўваходзілі наступныя рускія камуністы.

9. Мяснікоў — камісар па вайсковых справах,
10. Рэйнгольд — камісар фінансаў,
11. Новіч — камісар апраўізацыі,
12. Пікель — камісар народнай гаспадаркі,
13. Андрэеў — камісар сельскай гаспадаркі,
14. Іваноў — камісар унутраных спраў,
15. Савіцкі — камісар шляхоў зносін,
16. Розенталь — камісар пошт і тэлеграфаў,
17. Яркін — камісар „чрезвычайкі",
18. Берсан — камісар дзяржаўнага кантролю,
19. Найдзенкаў — камісар па справах уцекачоў.

*(Працяг будзе)*

## ГУТАРКІ Ў ДАРОЗЕ

### „ХТО МЯНЕ ТАК НАВУЧЫЎ?

...Мала з тым, што калісь мы не мелі як вучыцца, але мы пааставаліся сіратамі маленькімі... Наша мама не была здаровая, а нас пяцёра было. І няма чым карміці. Было кепска — калі я ў шэсць год за нянечку пайшла. Сёння дзіцяці не пакінуць самога ў шэсць год, каб яно само сябе паглядзела, а я ўжо служыла! Добра памятаю, на Будах была ў тае Наталлі, што яна была з Баб'яй Гары, з Зубрыцкіх, у Ляха. Яны былі багатыя, але яны былі добрыя. Наталля вельмі добрая была. Папрацавала я тыдзень у Ляхаў. Прыйшлі мама, паглядзеці, ці буду тут далей, ці не забраці мяне, бо я ж маленькая. Я сяджу на ложку. Падушкі ў адным месцы, у куточку, а мне дзіця дадуць у калені. Я памалу малое палажу, сама злезу, і панашу яго па хаце... Прыйшлі мая мамка паглядзеці. Стары Лях кажа: „Нічога, што яна маленькая, добра, што яна мне хоць пялюшку падасць! Няхай будзе ў нас, не скрыўдзім дзіцяці". І я правяла сваю мамку дарожкай праз балота на жалезны семяноўскі мост. З гэтага боку быў такі лясочак. Я стаяла ў корчыках, пакуль мамка за мост не пайшлі. Мама ідуць і плачуць, а я там так плачу! Вярнулася я на панадворак Ляхаў. Загароджаны ён не штыкетамі, а дошкамі высокімі, адна ў адну... Там такая шопка была, дзе зімовая павозка стаяла, шыткі, то я як туды ўбілася — то плакала да змяркання, аж Наталля мяне знайшла. Ой, такая Наталля добрая была... І як яны ідуць сюды, на Бабігару, то Наталля сваю дзеўчынку нясе, а я, дзе суха, то бягу, а дзе трэба праз кладачку перайсці, то Ясько мяне на руках перанясе. І прывядуць мяне да мамы, а калі ідуць назад — забяруць.

Ой, добра мне ў іх было. Стары Лях не хацеў, каб мяне бралі — памагла б яму свіней пасці. „То яшчэ дзіця, яе яшчэ трэба глядзеці, хопіць, што яна ў нас дзіця пільнуе", — кажа Ясько. Калысачку нізенька павесяць, я накармлю малое, пакалышу, і пакалыхваю, пакалыхваю, каб яно добра спала, і мне тады спакой, адпачываю.

І была я на Медзьвядзях, у Хведара нябожчыка, у Касі, хіба з тры гады, і ў іншых... Не ведаю, ці гэта памятае твой, Зінко, папа. Мала каму цяпер па 80 год, як нам, ці больш... З ранія выпраўлялі мяне яшчэ свіней пасці... Дзеці іхнія спяць, яна варыць есці, а я пад хваінаю плачу: „Тататачку, забярыце..!" Кругом холадна, у ножкі холадна, дзіця ж босае... А як яшчэ пабягуць свіне ў семяноўскія хваіны — думаю, што не вернуцца, і я іх не найду! З шасці год служыла — не было чаго есці ў хаце, а то хоць людзі пракормяць. А так хочацца, каб малака далі шкляначку, хлеба кусочак няньцы... Не было такое моды. Не дадуць. Такі быў час...

І том мы не вучаны ні капелькі. Калі ўжо большанькія былі, то хоць крышку больш зарабілі, і так ужо не збыткуюць. Як у якія людзі пападзеш. Памятаю, ужо я большая была, ужо у Хведара не служыла. Пайшла я да іх з сястрою бульбу капаць. А ён кажа: „Сястра няхай ідзе дахаты, а ты заставайся начаваці. Наскрабеш бульбы, натрэш, будзеш самы рагі есці з бабкі". То такі цэнны той ражок з бляхі! Калі я ў іх служыла, то ніколі мне яго не далі. Бацькі дадуць, калі дзеці пакідаюць, абгрызуць. Думаў, што я нічога не ведаю. Не, кажу, не хачу я тут начаваць, не хачу я вашых рагоў есці, бо баюся, каб днёўкі не адлічылі за свае рагі! Я так яму сказала, Зінко. А Хведар як адрэжа: „Хто — цябе — так — навучыў?!" „Ніхто не навучыў, бо ніхто не ведае, як я, якія дарагія вашыя рагі!" А хіба лет зо тры ў іх была, бо то блізка да мамы, калі пусцяць дахаты. О!

Дзе ж нам было вучыцца, калі галодныя былі! А мамка пойдуць рабіці, за пуд жыта — тры ці чатыры дні жалі жытка сярпом. За пуд, бо мала хто наймаў. За тры пуды перабраных, адрэзаных наскоў ад бульбы — два дні бульбу гортаць. Нас пяцёра — вазьмі накармі; мама шостая. Дзіця цяпер так не вырасла б. Не ела б так. Каб яно хацела хоць хлеба ці бульбы. Нам не марылася, каб яшчэ было акрашана! Абы хоць бульба і хлеб, і мы шчаслівыя! Нам не было калі вучыцца, мы пухлі з голаду. Ступні як падушачкі мелі...

Ах, дзе там да навукі нам было! Жыццё нас вучыла! І кажды пакрыўдзіць цябе, бо ты прывык, што ты горшы, бяднейшы, што пісаці не навучаны... Вось такія нашы універсітэты былі...

**Запісала Міра Лукша**

## ★ВЕР-НЕ-ВЕР★

Дарагі Астроне, у апошні час мне сняцца нейкія дзіўныя сны, а ўсе яны датычаць бальніцы. Пару дзён таму назад мне прыснілася, напрыклад, што ў бальніцы ляжыць мой свёкар-нябожчык, які ўжо нават і даўнавата памёр. Я прыйшла ў бальніцу, каб яго наведаць, гляджу, а ён ляжыць і трасецца з холаду. Я пачала накрываць яго, атульваць, каб ён неяк сагрэўся. І свёкру зрабілася быццам бы цяплей.

А сёння вось мне прыснілася, што быццам я маю ісці ў бальніцу. Мяне туды павінны палажыць, бо збіраюцца рабіць нейкую аперацыю.

Я пачала вельмі непакоіцца, бо сапраўды мы хочам зрабіць пэўную „аперацыю" ў нашым жыцці, дык можа нешта не ўдасца... А што ты думаеш, Астроне?

**Людміла**

Людміла! А я думаю, што якраз гэтая вашая „аперацыя" павінна вам удасца. Ты ж падумай сама, што бальніца ў сне заўсёды абазначае нейкі спакой, добры паварот спраў. А табе ж яшчэ на дадатак прыснілася, што ў бальніцы ляжаў твой свёкар-нябожчык, што таксама абазначае добрае. Усе твае старанні, бадай, не акажуцца марнымі.

**Астрон**

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка! Вельмі непакоюся за сваю сястру. Здавалася, было ўсё так добра. Яна ў нас была найстарэйшая і найпрыгажэйшая. Я была на 8 гадоў маладзейшая за яе, але мне было радасна, што мая сястра такая прыгажуня і ля яе ўвіхалася столькі хлопцаў. Проста, можна сказаць, не ведала, якога выбраць. Кожны ахвотна хадзіў бы з ёю. Але выбрала зусім звычайнага хлопца, з якім без шлюбу пачала жыць. Гады ляцелі, і я ў міжчасе выйшла замуж, нават знайшоў ужо сталую дзяўчыну наш наймалодшы брат. Старэйшая сястра дзяцей не мела, ну, бо і як жа ж іх мець, калі жылі яны без шлюбу, бо хлопцу таму яшчэ, як казаў ён, рана было жаніцца. Людзі ўжо нават і ўвагу звярталі, што вось, маўляў, малодшая выйшла замуж, а старэйшая ніяк выйсці не можа...

Але ў мінулым годзе здарылася так, што мы ехалі на мора з маім мужам адпачываць, і я запрапанавала сваёй сястры, каб паехала адпачыць з намі. Яе хлопец не змог звольніцца з працы, сказаў, каб яна ехала адна, а ён меў даехаць пазней.

Так і зрабілі. Над морам было цудоўна, а кампанія трапілася надзвычайная. Мая сястра адразу знайшла сабе некалькіх паклоннікаў, якія не адступалі ад нас, а праз некалькі дзён высветлілася, што адзін з іх глыбока запаў ёй у душу. Запаў да такой ступені, што яна пазваніла свайму хлопцу, каб не прыязджаў. Увесь час яна была разам са сваёй новай сімпатыяй.

Калі вярнуліся ў Беласток, яна ўжо быць са сваім хлопцам не хацела. Усё расказала яму, як было, і хлопец забраў свае рэчы ды выбраўся з яе кватэры. Пачаў прыязджаць на суботы і нядзелі яе новы хлопец, які жыў у Варшаве. Яна, забываючыся аб усім, замыкалася з ім на гэтыя два дні і не хацела нікога бачыць. Ёй было так добра, казала мне, як не было ніколі ў жыцці. І так сустракаюцца яны да сёння. І хлопец гатоў ажаніцца з ёю, ды толькі ёсць адна загвоздка. Хлопец гэты не мае сталай працы, а да таго ж яму яшчэ трэба развесціся, бо ён і жанаты і мае дзяцей. Сэрцайка, я параконваю сваю сястру, што гэта шалёнае каханне ў яе пройдзе, што не павінна яна будаваць свайго шчасця на няшчасці іншых, а яна не слухае мяне і сказала нават, што ахвотна нарадзіла б дзіця ад гэтага другога хлопца. Што ж гэта будзе?! Дарагое Сэрцайка, дапамажы выратаваць маю сястру!

**Віялета**

Віялета! Пагавары са сваімі бацькамі. Можа, ім удасца пераканаць сваю старэйшую дачку, каб не прадпрыймала ніякіх крокаў зашадта хутка. Няхай яшчэ пачакае. Мо гэта каханне як хутка ўзнікла, так хутка і згасне... А ўсё ж такі дзеці ён новага хлопца не будуць сіратамі. Відаць, да першага хлопца свайго яна ўжо проста прывыкла і больш адносілася да яго як да прыяцеля, а не як да каханка. Цяпер жа, калі ўзнікла новае гарачае каханне, дык адразу ёй захацелася дзіцяці, на якое не сабралася на працягу многіх гадоў. Калі не паспяшаецца з гэтым дзіцём, дык, можа, і час усё вырашыць. Калі так удалося з гэтым другім, дык і трэцяга хутка знойдзе.

**Сэрцайка**




### САЛАТА З БРУСЕЛЬСКАЙ КАПУСТЫ

На 30 дэкаў брусельскай капусты трэба ўзяць 10 дэкаў цыбулі, 6 сушаных сліў, 1 яблык, 1 лыжку муштарды, паўшклянкі смятаны, соль, цукар, перац, лімонны сок.

Брусельку ачысціць, дакладна памыць і асушыць, тоненька нарэзаць. Абабраць цыбулю, спаласнуць яе, нарэзаць пер'ямі, памыць яблык, абабраць, нарэзаць палосачкамі. Слівы намачыць на некалькі гадзін, а тады выняць з іх костачкі і нарэзаць палосачкамі. Усё разам спалучыць, перамяшаць з соусам, падрыхтаваным са смятаны з муштардай, заправіць па смаку соллю, лімонным сокам, перцам і цукрам.

### САЛАТА З ЦЫБУЛІ

На 30 дэкаў цыбулі ўзяць 20 дэкаў яблыкаў, 3 струкі папрыкі, 15 дэкаў кансерваваных агуркоў, 10 штук алівак ці марынаваных сліў, 4 лыжкі алею, лімонны сок, соль, перац, цукар, 4 лыжкі пасечанай зялёнай пятрушкі ці ўкропу.

Алей расцерці з лімонным сокам, соллю і цукрам, перамяшаць з пасечанай зелянінай. Цыбулю абабраць, нарэзаць скрылёчкамі, пасаліць, а тады перамяшаць з падрыхтаванай заправай. Памыць яблыкі, абабраць іх, нарэзаць макаронікам і спалучыць з цыбуляй. Нарэзаць костачкай кансерваваныя агуркі. Памыць папрыку, выняць з яе насенне, нарэзаць макаронікам, перамяшаць з салатай. Праверыць смак, калі трэба, дадаць солі, перцу і цукру. Алівкамі ці марынаванымі слівамі, выняўшы з іх костачкі, прыбраць салату.

### САЛАТА З ЦЫКОРЫІ З ЯБЛЫКАМІ

На 25-30 дэкаў цыкорыі ўзяць вялікі яблык, цыбуліну, 2 зубкі часнаку, 1-2 лыжкі пасечанай зялёнай пятрушкі, паўшклянкі маянэзнага соусу, соль і перац па смаку.

Цыкорыю ачысціць, раздзяліць лісткі, памыць іх. Памыць яблык, абабраць цыбулю, усё спаласнуць. Маянэзны соус палажыць у салатніцу, дадаць дробна пасечаны часнок, заправіць па смаку соллю і перцам. Падрыхтаваную цыкорыю нарэзаць упоперак лісцяў, кавалкамі даўжынёю 1-2 см і перамяшаць з соусам. Яблыкі і цыбулю нарэзаць дробнай костачкай, дадаць да салаты, перамяшаць з зялёнай пятрушкай. Праверыць смак, калі трэба дадаць солі. Хто любіць, можна яшчэ дадаць лімоннага соку.

**Гаспадыня**

# Зорка
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Алег Фомчанка

### ГРЫБНАЯ НАВУКА

Спачатку яны ехалі аўтобусам, а на чыгуначным вакзале пераселі на цягнік. Юрасік глядзеў у акно і ўсё пытаўся:

— А калі будзе наш лес?

— Хутка, хутка, сынок, — адказваў тата.

— А калі гэта хутка? — не супакойваўся Юрасік. — Ну, калі?

— Праз тры станцыі, — сказала маці.

Юрасік змоўк, бо лічыў станцыі і баяўся збіцца. Ён нават прапусціў міма вушэй, калі пачулася:

— Станцыя Коласава...

— Тут і будзе наш лес, — сказаў тата, — тут і выходзім.

Да чыгуначнага палатна падступаў цёмны таямнічы лес. Хлопчык падумаў, што тут, напэўна, жывуць ваўкі і мядзведзі, пра якіх яму чыталі ў кніжках, і ад жаху нават прыжмурыў вочы.

— Чаго сцішыўся, грыбнік? — тузануў яго тата. — Ану, левай, левай!..

Людзей на прыпынку сышло шмат, і Юрасік устрывожана запытаўся:

— Тата, а грыбоў усім хопіць?

— Усім, сынок, усім, — зарагатаў тата, і яго гэтак жа весела падтрымала мама. — Лес вялікі. Людзі разыдуцца — ніводнага не ўбачыш.

І зноў Юрасіку стала страшна, што яны застануцца адны ў вялікім і таямнічым лесе.

Неўзабаве сцяжына прывяла іх у лясны гушчар. Раптам каля невялікай яліны Юрасік убачыў грыб. Ды такі вялізны, такі прыгожы — на высокай бялюткай ножцы, у чырвонай шапачцы, з белымі кропачкамі. Не грыб, а чароўны парасончык!

(Працяг на стар. 10)



Уладзімір Караткевіч

* * *

У векавечнай бацькаўшчыне клёны
Нячутка пачынаюць аблятаць
На рыжую траву, на мох зялёны,
На весніцы, на ціхі стаў,
на гаць.
Зямля глядзіць азёрамі-вачыма
На ясны свет, што стыне
у красе.
Як чыста, бы святло абшары вымыла,
Як ціха — быццам людзі зніклі ўсе.
Адвечная мая!
У сцюдзёных росах,
Як летась, як мільёны год таму...
Ляцяць па ветры косы рыжай восені,
І кліча лісцяў жоўты сум зіму.

Фота В. Майсюка

Васіль Жуковіч

### СОНЕЧНЫ ДЗЕНЬ

Неба празрыстае,
хмарак — нідзе, —
сонечны дзень
у дарогу ідзе!
Сонца купаецца
ў чыстай вадзе —
радуе фарбамі
сонечны дзень!
Птушкі заціўкалі звонка:
ціў-цень —
грае за вокнамі
лёгкі прамень —
сонечны дзень!
Добрым настроем,
усмешкай сустрэнь
сонечны дзень!



*Інструментальна-вакальны калектыў „Зярняткі“ з Пашкоўшчыны.* *Фота Я. Чэрнякевіч.*

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

Мікола Хамянкоў

### НА ЛУЗЕ

Выйшлі дзеці
На лужок
І паселі
У кружок.
На дудзе зайграў Ясей,
Коля — на гармоніку.
Скачуць, скачуць па расе
Непаседы konікі.

### ШЧАСЛІВАЯ МАМА

Пяць дачок у маці,
Родных пяць галубак.
Што ні робяць дочкі —
Глянуць воку люба!

Галя мые кухню,
Залу — Лена з Верай,
А Хрысціна смажыць
Бульбу на вячэру.

Меншая, Анюта,
Хлеб купіла ў краме:
Залатыя дочкі
У шчаслівай мамы!

### ІГНАТКА І КУРАНЯТКІ

Кліча курачак Ігнатка:
— Цып, цып, цыпу,
Куранняткі!
Не хадзіце вы з двара,
Есці вам прыйшла пара.
Куранятак паслухмяных
Пачастую кашай
Маннай.

### У ЗААПАРКУ

Свінка, чорная ад бруду,
Чэша вуха, чэша спінку.
— Слонік, слонік, — просіць
Люда, —
Калі ласка, вымый свінку.
Слон паслухаўся дзяўчынку,
Зачарпнуў вады пад аркай,
І паліўся дождж на свінку —
Цёплы, шчодры, нібы з хмаркі.

### ДОБРАЯ СЯСТРЫЧКА

— Ты чаму, Анютка,
Ходзіш так
Ціхутка?
— А таму, што ў ложку
Брацік спіць
Сярожка.

Васіль Зуёнак

### ЗОРКІ ВЫПАЛІ Ў БАРЫ

Вы не бачылі, сябры, —
Зоркі выпалі ў бары!

Дзе ні глянеш
На паляне —
Усё гарыць
чырвоным ззяннем.
Пад лістамі, ля
пянькоў —
Сотні зыркіх аганькоў.
Свецяцца жарынкі —
Цёплыя смяшынкі,
Сонечныя дочкі —
Зваблівыя вочкі.

У бары, у бары
Дол увесь іскрыцца,
У бары, у бары
Выспелі суніцы!

## ГРЫБНАЯ НАВУКА

(Працяг са стар. 9)

— Ура! Мама, тата, глядзіце, што я знайшоў! Глядзіце! Ур-ра!..

— Не чапай гэты грыб! — закрычаў тата. — Ён кепскі, ён атрутны! Завецца мухамор.

Малы расчараваны адвёў руку. Але праз колькі хвілін зноў пачуўся яго радасны голас:

— Глядзіце, вось добры, не атрутны грыб!

— Не, і гэты нядобры, воўчы, — пакруціў у руках бура-зеленаваты грыб тата. — Вось пабач, якія трэба збіраць.

Тата пасунуў сваё вядзерца — там ляжалі жоўтыя лісічкі, карычневыя брылькі баравікоў, чырвонагаловыя падасінавікі... Юрасік яшчэ не ведаў назвы грыбоў — тата іх гэтак называў.

У мамы таксама вядзерца было важкае.

Адзін Юрасік пакуль што нічога не сабраў.

— Не бядуй, — сказала мама. — Напачатку заўсёды так. Добрым грыбніком становяцца не адразу.

— Уважліва глядзі сабе пад ногі, — дадаў тата і зрэзаў сцізорыкам чырвонагаловага мацака.

Але як Юрась не ўглядаўся долу, грыбоў чамусьці не бачыў. А вось тата ішоў следам і толькі паспяваў падбіраць то баравіка, то падбярозавіка.

Неўпрыкмет бег час. Трэба было вяртацца дадому. А Юрасікаў кошык быў па-ранейшаму пусты.

Тата кінуў зрок на маму, мама — на тату. І яны зразумелі адно аднаго. Моўчкі адсыпалі Юрасіку сваіх грыбоў. Цяпер ужо і ў яго быў паўнюткі кошык.

На пероне сабралася шмат людзей, якія чакалі поезду. Нейкая дзяўчынка паказала на Юрасіка.

— Бабуля, глядзі, — сказала дзяўчынка, — які маленькі, а вунь колькі грыбоў назбіраў! Малайчына!

— Вядома, малайчына, — пагадзілася старая жанчына і звярнулася да Юрасіка: — Як ты, дзіцятка, столькі назбіраў?

Юрасік пачырванеў і нічога не адказаў.

Ён дагнаў тату і маму, якія адышлі трохі ўперад і, не гаворачы ані слова, хуценька перасыпаў грыбы з кошыка ў іхнія вядзерцы.

На ягоны пусты кошык больш ніхто не звяртаў увагі.

Тата дакрануўся да сынавага пляча і сказаў:

— Цяпер я ўпэўнены, што з цябе атрымаецца сапраўдны грыбнік.




## БЕЛАРУСКІ ПЕРШАДРУКАР

**(У 500-годдзе з дня нараджэння)**

**— 15 —**

На Францыска спадаюць новыя выпрабаванні і напасці.

Як сведчаць судовыя справы, Скарыне давялося зрабіць нямала захадаў, каб за яго жонкаю застаўся дом, што стаяў пры рынку і на які доўгі час пасягалі родзічы мужа.

А тут і новы страшны ўдар. Вялікі віленскі пажар 1530 года вынішчыў большую частку горада і разам скарынаву друкарню. З дымам пайшла праца, на якую былі затрачаны гады. Пэўна ж, панеслі вялікія страты і Скарынавы прыяцелі.

Відаць, каб нейк паправіць становішча, Скарына ідзе на службу да прускага герцага Альбрэхта і нейкі час жыве ў Кёнігсбергу.

Мы не ведаем, чым ён там займаўся. Можа, як думаюць некаторыя, Скарыну туды запрашалі як медыка, бо пад гэты час там лютавала эпідэмія. А можа, як лічаць другія, герцаг задумаў наладзіць выдаванне кніг і яму патрэбен быў дасведчаны ў друкарстве чалавек. Для нас жа сёння асабліва цікава тое, як высока адзываецца аб Скарыне гэты герцаг. Ён называе яго чалавекам „непараўнальнага даравання і пахвальнай вучонасці", „са здольнасцю розуму выключнага".

У Скарыны ў Вільні якраз тады цягнуцца судовыя працэсы. Вядома нават, што ў яго сям'і рознымі няпраўдамі канфіскуюць маёмасць. І герцаг у адным з лістоў просіць віленскі сенат заступіцца за свайго падапечнага, каб сам Скарына, яго сям'я, маёмасць былі „абаронены ад усякай несправядлівасці".

І ўсё ж неўзабаве Францыск пакідае Кёнігсберг. Аднак узяцца ў Вільні за улюбёную працу не выпала. Судовыя ганенні не сунімаюцца.

Улетку 1529 года ў Познані памірае Францыскаў брат Іван. Францыск цяжка перажывае братаву смерць. Яны моцна дружылі ўсё жыццё, памагалі адзін аднаму. Іван, хоць і валодаў родавую маёмасцю ў Полацку, лічыўся віленскім жыхаром. Тут ён быў добра знаным купцом. Ідучы слядамі бацькі, Іван Скарына разгарнуў шырокі гандаль футрамі з гарадамі Польшчы і Прыбалтыкі.

Францыск валодаў з ім непадзельнай маёмасцю. А жаніўшыся, уклаў у братаву справу і жончын капітал.

Пасля смерці Івана астаўся вялікі запас скур на складзе ў Познані і... вялікія братавы даўгі. Францыску з цяжкасцю ўдалося атрымаць частку фурраў у лік жончыных грошай.

Між іншым, удзел у гандлёвых братавых справах абярнуўся тут для Францыска бядою. Варшаўскія багацеі яўрэі, якія пазычалі брату грошы, пачалі сцвярджаць, што Францыск — галоўны братаў супольнік, і ён павінен сплаціць ягоныя даўгі. Яны нават дамагліся ад караля распараджэння, паводле якога Францыск Скарына, дзе б толькі не аб'явіўся на тэрыторыі Польшчы, падлягаў арышту. І як толькі Скарына па справах віленскага біскупа, у якога ён быў за сакратара і хатняга лекара, апынуўся ў 1532 годзе ў Познані, яго арыштоўваюць. Каля двух з паловай месяцаў сядзіць ён у гарадской турме. Аж пакуль братаў сын Раман не дабіваецца сустрэчы з каралём. Пляменнік бярэ на сябе бацькавы даўгі і адкідае з дзядзькі беспадстаўныя абвінавачанні.

**(Працяг будзе)**

## ЛЕГЕНДЫ НАШАЙ ЗЯМЛІ

### ЧАМУ НАША СЯЛО НАЗЫВАЕЦЦА СКУПАВА?

Аднойчы прыйшоў да нас дзед Раманчук. Гэта быў стары чалавек, якому, як казалі людзі, было сто гадоў. Мы, маладыя хлапчукі, абступілі дзеда і пачалі пытацца:

— Дзеду, колькі вам гадоў? Сядайце і раскажыце, як то даўней было? Чаму наша сяло — Скупава?

Дзедка паставіў сваю кульбаку ў куточку, сеў на лаўку каля стала і загаварыў:

— Дзеткі мае, у мяне за плячыма больш за дзевяноста гадоў. Як сон прайшло жыццё маё. А мне здаецца, што я толькі ўчора нарадзіўся на свет... Цяжкае маё жыццё, але жыць хочацца. Просіце расказаць вам пра Скупава. Яго так называюць не таму, што тут жывуць скупыя людзі. Даўно-даўно тут быў двор. Стаяў ён на ўзгорку па скоснай дарозе, што ідзе на Сухадолы, паміж Смольным і Бандаравым Кутом. Пад узгоркам была крыніца, цякла рэчачка, там быў рыбны стаў. Двор згарэў. Тады зямлю распрадалі людзям. Вось, можа, таму наша сяло і назвалі Скупава, бо зямлю скуплялі людзі з розных старон. Спярша Скупава было адно, а пасля пажару раздзялілася на Старое і Новае Скупава.

Калі тут лес быў вырублены пад поле, таго ніхто са старых не тамятае, то было даўнымдаўно. Толькі чуў я ад старых людзей, што руская царыца Кацярына падарыла Скупава свайму палкаводцу Сувораву. Ён быў генерал над усімі генераламі і называўся генералісімус.

**(З кнігі І. Гурскага „Бяздоннае багацце")**

## А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А





*Знайдзі на гэтых малюнках 9 адрозненняў.*

## *Вершы Віктара Шведа*

### НА ЎРОКУ

— Скажы, якую рыбу
Ты ведаеш, Міхась?
— Яна завецца, хіба,
Нязвыкла так: карась.

— А што аб ёй ты скажаш,
Ці бачыў ты яе?
— Я тую рыбу смажыў
І з апетытам з'еў.

### ЧАМУ СПЯЦЬ НОЧЧУ ЛЮДЗІ?

Брата пытаннем трудзіць
Валодзя перад сном:
— Чаму на свеце людзі
Спяць ноччу, а не днём?
— Баяцца людзі цемры, —
Адказвае Рыгор. —
Пад коўдрай ноччу дрэмлюць,
Удзень ідуць на двор.

### Я НЕ ЛЮБЛЮ ХЛУСІЦЬ

Трубку ўзяла дзяўчынка
Каб суцішыць званок.
— Дай маму на хвілінку, —
Пачуўся галасок.
— Няма матулі ў хаце,
Хоць прыкра гаварыць.
— А чаму прыкра, Каця?
— Бо не люблю хлусіць.

### СВАРЛІВЫ ТЭЛЕФОН

— І вынайшаў вучоны Бэл
Нам тэлефон, як на іронію,
Каб баламуціў ён людзей,
Каб ім псаваў жыцця гармонію.

Дык выкіньма той тэлефон,
Што ж горшае ўжо можа
здарыцца?
Бачу, што безупынна ён
З татам у працы толькі
сварыцца.

## ПАЗНАЁМІМСЯ

* * *

БССР, Магілёўская вобласць, Асіповіцкі раён, с. Свіслач, вул. Школьная, 7. Еленскай Ірыне (7 клас).

* * *

СССР, 169933, г. Воркута, п. Воргашор, ул. Ш. Строительная, 40, кв. 2. Крикун Светлане (12 гадоў).

* * *

СССР, 346527, Ростовская обл., г. Шахты, ул. Текстильная, 43, кв. 70. Ефименко Лилии (13 гадоў).

* * *

БССР, 225710, Брэсцкая вобл., г. Пінск, вул. Пралетарская, 12, кв. 2. Красінская Віка (6 клас).



Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Suraska 1, „Зорка".

